№ 57 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 57 (253). Год III. Вільня, 23 ліпня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## Аб літоўскай справе.

«Nordd. Allg. Ztg.», орган нямецкага канцлера, пішэ ў нядзеляшнім нумэры з 21 ліпня:

„Недаўна выявілося, што адно літоўскае сабраньне (Körperschaft) выбрало гэрцога Ураха за караля Літвы. Як мы даведаліся, справа стаіць гэтак.

„Часьць Літоўскай Краёвай Рады бяз згоды Нямеччыны, па прыкладу польскай дзержаўнай рады, арганізавалася ў Літоўскую Дзержаўную Раду і выбрала пасьля бяз ведама нямецкага ўраду гэрцога Ураха ка караля Літвы. Незалежнасьць Літвы ў сваім часе **была прызнана Нямеччынай толькі з умовай, што маючая быць надпісанай конвэнцыя, да якой, ведама, належыць і справа аб дзержаўнай форме і аб заняцьці пасаду, будзе згодна з інтарэсамі Нямеччыны.** З гэтага вынікае, што ўсе справы могуць быць правамочна разьвязаны толькі ў цеснай еднасьці з нямецкім урадам. Гэтак за Літвой ня можэ быць прызнано права прыняць сваім адумам пастанову ў справе насаду,—**тым болей, што ў самавольна ўтворэнай дзержаўнай радзе нельга бачыць законнага прэдстаўніцтва Літвы.** Вестка, быццам гэрцог Урах прыняў карону, гэтак нязгодна с праўдай. Наадварот, самавольная пастанова і прэдлажэньне яго, трэба думаць, непрыемна зьдзівілі. У пытаньні аб літоўска-саксонскай пэрсональнай уніі, каторая ізноў разгледаецца прэсай, ніякай пастановы дагэтуль так сама не было".

## 22 ліпня.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Між Эн і Марн бітва трывае далей з незьменшаючайся сілай. Ня гледзячы на свае цяжкіе неўдачы 20 ліпня, ворагі сьвежымі дывізіямі і новымі панцырнымі самаходамі ізноў пачалі свае вельмі вострые штурмы проці нашых пазіцый. Яны адбіты. Палонные пацьверджаюць весткі аб цяжкіх стратах у ворагаў. Учорашні баевы дзень закончыўся ізноў поўнай удачай нямецкага аружжа. Між Эн і Гартэн пасьля найсільнейшага барабаннага агню пачаліся нараніцы пяхотные штурмы ворагаў. Між Суассон і Гартэн яны зламаліся ўжо перад нашымі лініямі. На поўначы ад Вільмонтуар часьці ворагаў на момэнт перайшлі цераз дарогу Суассон — Шато-Т'ері. Контратакай яны былі цэлком адкінуты. Вільмонтуар і Тіні былі цэнтрамі бітвы, каторая дзякуючы нашым контратакам скончылася для нас удачна. На палудзенным заходзі ад Суассона атакі былі спынены нашым агнём або зламаліся с цяжкімі стратамі. Паабедзі ворагі новымі сіламі атакавалі наабапал Урк. Пасьля цяжкіх бітв контратакамі штурмы ворагаў адбіты. На поўначы ад Шато-Т'ері сільные атакі ў вечары зламаліся с цяжкімі стратамі. На фронце Марны—артылерыйскі агонь. Між Марнай і Ардр англіцкіе і францускіе атакі крывава адбіты.

---

ЭССЭН. Галава нямецкіх умяркаваных соцыал-дэмакратаў, Шэйдэманн, заявіў, што віна немагчымасьці абмена думкамі між соцыал-дэмакратамі ўсіх старон падае на Англію. „Мы не пацерпім, каб наша земля ў гэтай вайне была разгромлена, бо як-раз нямецкі работнік пацярпеў-бы ад гэтага найболей.

ПАРЫЖ (Гавас). В. прэфэкт паліцыі, Монурі, аддадзен пад суд за зносіны с цэнтральнымі дзержавамі.

ВАШЫНГТОН. Амэрыканскі транспорт «Karpatia», 13.603 тонны, едучы заграніцу, затоплен торпэдай.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). 20.VII. Марское міністэрства наказывае:

Сягоньня раніцай затануў амэрыканскі крэйсэр. Выратаваны 335 душ. Аб прычынах здарэньня нічога невядома.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У паўночных водах нашы падводные лодкі ізноў затапілі 16.500 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 20.VII. У Сяродземным моры нашы падводные лодкі ізноў затапілі 3 параходы ёмкасьцю разам 17.000 т.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Навакол Англіі затоплено 12.000 тонн.

---

Рэдакція „Гомана" просіць усе пісьмы, рукапісы да друку, карэспандэнціі, газэты і т. п. пасылаць ёй **ТОЛЬКІ** па адрэсу: **Віленская вул. 33, кв. 1.**

*Вільня, 23 ліпня 1918.*

Барацьба двох волатаў на Заходзі дайшла, бадай, свае найвялікшае сілы. На Іпры, на Эн, на Марне наступленьне з аднаго боку зьменяецца контр-наступленьнем з другога,—і калі раней між баталіямі былі даўжэйшые перарывы, цяпер удар ідзе за ўдарам, быццам куюць два вялізарные малаты. Толькі с кавадла ня іскры лятуць, а кроў чэлавечая ліецца...

Разьвязка сусьветнае вайны, бязспорна, набліжаецца, — і калі пасьля пэрыаду страшэнных баталій, які цяпер пачаўся, не зразу настане мір, дык усё-ж, трэба думаць, вайна пачне заціхаць: ня скора ўдасца ваюючым дзержавам папоўніць свае страты людзьмі і сабраць новые запасы ваенных матэр'ялаў, гэтак шчодра ўжываных цяпер. А заціхнуўшая на нейкі час аружная барацьба ўжо не адновіцца з даўнейшай сілай.

Сучасная вайна не знае нічога падобнага ў мінуўшчыне: яна захапіла ўсё жыцьцё — усе галіны яго як у ваюючых старонах, так і ў нэўтральных. А за чатыры гады ваеннага палажэньня людзі так ужо прывыклі да вайны, што іншым здаецца, быццам яно і ня можэ быць іначэй, быццам тое, што было перад вайной, гэта толькі нейкі сон,—нейкі далёкі-далёкі ўспамін з мінуўшчыны. У той момэнт калі ўрэшці вайна закончыцца на ўсенькім сьвеце, цяжка будзе прыспасобіцца да нормальных варункаў тым, хто гэтулькі часу жыў у акопах—закапаўшыся, як крот, у зямлю.

Чацьвёрты год вайны дажывае свае апошніе дні. І чым даўжэй яна зацягнецца, тым цяжэйшые будуць яе рэзультаты. Ужо цяпер можна сказаць, што і пабядзіўшые, і пабітые—усе роўна праіграюць у гэтай вайне, прынамсі с пагляду на сучасные пакаленьні. Але такая ці сякая разьвязка вайны будзе мець вагу *для пакаленьняў патомных*: ад яе будзе залежаць магчымасьць свабоднага іх разьвіцьця, будзе залежаць іх экономічная свабода.

---

## Беларуская мова у Касьцеле.

Беларуская мова, каторую ў 1839 годзе цар Мікалай І забараніў ужываць у касьцёлах і цэрквах, цяпер ізноў варочаецца ў сьвятыні. На перадзе ў увядзеньні беларускай мовы ў сьвятыні ідзе каталіцкае духавенства. Праваслаўнае духавенства ідзе ў гэтай справе ззаду і, пэўне, будуць шкадавацца праваслаўные сьвяшчэнікі, што пушчаюць у аддаль гэтакую важную справу, як увядзеньне беларускай мовы ў Царкву на Беларусі.

Я хачу тут напісаць некалькі радкоў аб беларускай мове ў Касьцеле на той бок старога фронту. На гэты бок старога фронту выжэйшай духоўнай уласьцю ў Віленскай дыэцэзы былі ксяндзы палякі, каторые шыручы польшчыну, заціскалі і выганялі ўсё беларускае, нават с шкодай для каталіцкага Касьцёла. Дзеля гэтага ксяндзы беларусы на гэты бок старога фронту не змаглі зрабіць і маленькай часьці таго, што зроблено ксяндзамі, сьвядомымі беларусамі, на той бок старога ваеннага фронту. Праўда, каталіцкі Касьцёл у Магілёўскай і Менскай дыэцэзыях не аслабаніўся яшчэ ад шкоднага польскага кіраваньня. Але ў дыэцэзыі Магілёўскай выжэйшые кіраўнікі Касьцёла на Беларусі заўсёды адносіліся з меншай крыўдай да беларусаў, адносіліся да нас справядлівей чымся ў дыэцэзыі Віленскай, дзе выжэйшые кіраўнікі, чужые нам ксяндзы палякі, проста зьдзекуюцца над усім нашым родным, беларускім. Што датычэ беларускага народу, дык ён усюды глыбака любіць сваю мову і з вялікай радасьцю і ўдзячнасьцю прымае яе ў сьвятынях; шкодзіць, ведама, часта польская агітацыя, дый агітацыя вельмі нягодная.

Яшчэ перад вайной часамі можна было пачуць беларускае казаньне ў касьцеле. Гаварылі па беларуску казаньне ў некалькіх парахвіях, ды часамі на вялікіх урачыстасьцях, фэстах, с прыехаўшых шмат ксяндзоў ні той, то другі скажэ казаньне па беларуску. Але гэта быў толькі крык, што праўда яшчэ ня ўмёрла, крык, што жыве Беларусь. З рэвалюцыей у Расеі пайшлі беларускіе казаньні на той бок старога фронту шмат шырэй і былі ўсюды вельмі горача прыманы народам. Але вялікае сьвята меў каталіцкі Касьцёл на Беларусі, асвабаджаны ад путаў польшчыны, вялікае сьвята мела беларуская мова—гэта летась улетку 1917 году, як Яго Эксцэленція біскуп Ропп візытаваў касьцёлы на Беларусі. Па загаду біскупа Роппа былі ўведзены беларускіе казаньні. Біскуп Ропп падчас свае візытацыі, пачынаючы ад Дзісны, загадаў гаварыць казаньні па беларуску у імя прынцыпу Каталіцкага Касьцёла, каторы ад апостальскіх часоў прамаўляе да кожнага народу ў яго роднай мове. Сваім загадам біскуп Ропп таксама прызнаў права беларускага народу ўжываць у Касьцеле сваю мову. Падчас візытацыі кс. біскупа Роппа гаварылі казаньні па беларуску, між іншымі, гэткіе ксяндзы: Годлеўскі, А. Станкевіч, Цікота, Лісоўскі, Эйсмонт, М. Шолкевіч, Аўгустыновіч, Бобіч, Пётроўскі, Олешкевіч і інш. Усюды народ прыняў беларускіе казаньні з найвялікшай радасьцю. Напрыклад, у сямёхтысячнай парахвіі Ваўкалаце кс. Эйсмонт хацеў даведацца волю народу і прад казаньнем зьвярнуўся да людзей з гэткімі словамі: «Буду мець казаньне аб бежаваньні, як хочэце, каб гаварыў

